Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 13 - 19 чэрвеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

№24 (112)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

3, 5, 6 СТАРОНКІ МАЛАДЗЁЖНЫ ЎКЛАДЫШ №3

УСЯ 8 СТАРОНКА ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

## Іосіфа на Іосіфа

### Пётр Пётух вызваляе чалавека. Ад пасады

***МЯДЗЕЛ. Тыдзень таму Мядзельшчына набыла новага старшыню райвыканкома.***

На нечарговай сесіі райсавета дэпутатаў старшыня Мінскай абласной вертыкалі пазнаёміў прысутных са сваім жа распараджэннем аб вызваленні Іосіфа Тарасёнка з пасады. Прызначыў ён і новага чалавека - Іосіфа Варановіча, які перад тым доўгі час працаваў дырэктарам "Райаграпрамэнерга" і толькі каля трох месяцаў паспеў пакіраваць сельгаспрадпрыемствам імя М. Танка (былая аграфірма "Зара").

Многія мядзельчане былі ўпэўненыя, што пасля паспяховай пасяўной старшыня выканкома, нягледзячы на пагрозы зверху аб вызваленні ад пасады, усё ж застанецца старшынёй. Прэцэдэнт перамены настрою ўлады на прыкладзе нашага рэгёна быў. Успомнім гісторыю з вызваленнем ад пасады старшыні Валожынскага райвыканкома Валянціна Малішэўскага, якое, урэшце, не адбылося. Аднак прэцэдэнт прэцэдэнтам, а прэзідэнт - прэзідэнтам.

*Аддзел інфармацыі.*

## Здарэнні

### Секунды і жыццё

***ВІЛЕЙКА. На мінулым тыдні на нехоўваемым пераездзе міжнародны цягнік Варшава-Санкт-Пецярбург наехаў на "Опель-Вектру", які пераганялі з Германіі.***

Бачнасць на той час (каля 17 гадзін) была здавальняючая, і прычынай здарэння, мабыць, паслужыла стомленасць вадзіцеля. Першы пуць машына пераехала, але цягнік, які рухаўся па другім, адкінуў яе праз той жа першы пуць на ўзбочыну. Машыніст прымяніў экстраннае тармажэнне, сігналіў, але ўсё вырашалі секунды.

Выпадковы спадарожнік вадзіцеля - малады хлопец памер у бальніцы крыху больш як праз суткі, а сам кіроўца з вілейскай рэанімацыі пераведзены ў Мінск.

Цеплавоз атрымаў пашкоджанні, таму на Вілейку цягнік выводзілі на зменшанай хуткасці. Затрымка ў яго руху склала 1 гадзіну 10 хвілін.

*Аддзел інфармацыі.*

## Гасцёўня "РГ"

# Паляк ксёндз Войцэх Ліманскі вучыць беларусаў быць беларусамі

*Пробашч касцёла ў Свіры пасля сямі гадоў працы ў Беларусі збіраецца вярнуцца на радзіму ў Польшчу.*

**— Пан ксёндз, прайшло сем гадоў, нешта вы па сабе тут пакінулі, нешта гэтае жыццё пакінула ў вашай душы, якія перамены адбыліся!**

—Вельмі многа. Сем гадоў такі для чалавека адрэзак часу, што цяжка сказаць, каб перамен не было. Але, можа, яны і непрыкметныя, бо чым больш мы жывем, то больш здаецца - усё ўжо было, што раней мы былі такімі самымі. Мяркую, што вярнуся ў Польшчу не зусім іншым чалавекам, але тое, што адбывалася са мною, з гэтай краінай, усё адбівалася на ўсіх людзях. Разляцелася адна краіна, стварылася другая, цяпер зноў быццам бы аб'яднанне...

**— Быццам бы.**

—Але так яно ёсць. Гэта адбіваецца на людзях, на мне, на тым як я бачу плён сваёй працы. Бачу, чаго не хапіла ў маіх стараннях, што трэба дапрацаваць у свядомасці гэтых людзей. Што атрымліваецца, што не атрымліваецца. Знаеце, я ніколі не ездзіў за мяжу. І не таму, што не было магчымасці, такая магчымасць на Захадзе заўсёды існуе. Гэта не вельмі вялікія грошы. У мяне няма ахвоты ездзіць за граніцу. Але сюды я прыехаў. І вярнуся, лічу, багатым. Таму што пабачыць людзей, якія жывуць вельмі блізка і зусім інакш,- гэта расплюшчвае вочы на многія справы.

Ад аднаго з прафессараў духоўнай семінарыі падчас вучобы я пачуў: у кожнага чалавека ёсць хрысціянская душа. Гэта значыць, што кожны чалавек ёсць у душы хрысціянінам, проста трэба яму дапамагчы гэта хрысціянства ў сабе адкрыць.

Калі прыехаў сюды, то ўбачыў, што гэта не так проста, як разумеў раней. Раней здавалася: у гэтага такая праблема, у таго такая. Застаецца толькі дапамагчы іх вырашыць. Але тут няма жадаючых вырашаць праблемы. Ты размаўляеш з чалавекам, а ён табе ў адказ: а мне гэта не цікава, я без гэтага абыходжуся. Знаеце, зусім іншая рэакцыя на тыя самыя справы. Пытанне не ў тым, што чалавек перастаў успрымаць хрысціянскія каноны як праўду, але глядзіць на іх зусім па-іншым. А адлегласць паміж намі вельмі блізкая. Я неяк ехаў дадому зімой праз Брэст, дык, ведаеце, тут былі страшэнныя гурбы снегу, адна толькі палоска "алімпійкі". Праязджаеш праз граніцу - дзесяць кіламетраў - чорна. І да самай Варшавы чорна. Назад ехаў праз Гродна. Да граніцы - ні кропелькі снегу, прехаў праз граз граніцу... І знаеце - гэта ў прыродзе. Але ў людзях - падобна. Гэта не значыць - горш або лепш, проста зусім іншыя праблемы, іншыя клопаты.

**— Пане Войцэх, вы сказалі пра лінію, якая можа нас падзяляць, можа не падзяляць. Прыехаўшы сюды, вы адчулі нейкую гістарычную адметнасць гэтага краю! Ці ёсць адчуванне таго, што тут свая гісторыя!**

— Так. Мне вельмі падабаецца беларуская мова, падабаецца народ за працалюбства, за працаздольнасць, за нейкі спакой у жыцці. І яшчэ, вельмі добра пaглядзець на Польшчу збоку. Калі ты там, то як кожны чалавек, проста не заўважаеш, што можа быць па-іншым. Калі глядзіш звонку, то бывае сорамна за тое, што не бачыў раней. Проста не бачыў. Пачынае быць крыўдна з-за таго, што чагосьці не стараўся... Лічу, што калі беларусы далучацца да Расіі, Польшчы, то яны страцяць нешта сваё. Словам гэтага не назваць. Проста гэта ёсць. Яны, можа, будуць жыць багацей, можа, бядней, не ведаю, але яны будуць не такія.

*Заканчэнне на 2-й стар.*



## Адным абзацам

Калі меркаваць па водгуках у сродках масавай інфармацыі, у апошнія два-тры тыдні грамадскасць была надта ўсхваляваная. На гэты раз прадметам народнай увагі сталі не глабальныя праблемы беларуска-расійскай інтэграцыі ці супрацьстаянне пашырэнню NATO, а лёс аднаго чалавека - прэзідэнта Беларусі. Дакладней, яго адпачынак. Па частаце звазротаў да гэтай тэмы часам складвалася думка, што многіх хвалюе не думка пра здароўе і адпачынак прэзідэнта, а жаданне хутчэй застацца без пастаяннага клопату ўсенародна абранага. На апошнім пасяджэнні савета рэспублікі Лукашэнка абвясціў, што хаця паняцце адпачынку яму незнаёмае, у бліжэйшыя дні ён на тыдзень з'ездзіць у Сочы.

Нацыянальным банкам прынятыя чарговыя рашэнні аб устанаўленні мінімальных працэнтных ставак па тэрміновых дэпазітах у беларускіх рублях у памеры 50% гадавых і ў памеры 12% па тэрміновых укладах у валюце, а таксама аб абавязковым продажы Нацбанку 30% купленай у насельніцтва валюты. Па ацэнках аналітыкаў, беззваротна з рынку наяўнай валюты будзе адходзіць каля 20 млн. долараў у месяц, што ўжо праз пару месяцаў прывядзе гэты рынак да гібелі. Купіць долары па такім курсе грамадзянам будзе проста немагчыма.

Праз тры месяцы пасля прыняцця дэкрэта прэзідэнта аб дэклараванні сродкаў і даходаў грамадзянаў у наяўнасці першыя змяненні на рынку нерухомасці - толькі ў Мінску попыт на кватэры знізіўся амаль у паўтара раза, цэны на сярэдняе і таннае жыллё зменшыліся на 800-1000 долараў. Падзенне цэн і попыту было выклікана таксама рэзкім зніжэннем пакупніцкай здольнасці насельніцтва, мяркуемым ростам тарыфаў на камунальныя паслугі і магчымым падаткаабкладаннем нерухомасці ў будучым.

Навучэнцы Маладзечанскай ДМШ і сектара практыкі музвучылішча пабывалі на ўсепольскім фестывалі юных кларнетыстаў імя Яна Падэрэўскага ў Пётркаве-Трыбунальскім. Акрамя маладзечанцаў яго ўдзельнікамі сталі юныя музыканты з Познані і Варшавы, Кракава і Лодзі, а таксама нямецкага горада Эслінгена - усяго 170 прадстаўнікоў. Атрымалі запрашэнне на такі ж фестываль і піяністы - на 5-8 лістапада.

На мядзельскай птушкафабрыцы "Зара камунізму" запушчаны ў работу агрэгат па вытворчасці вітамінная травяной мукі. Плануецца выпускаць да 1,5 тоны прадукцыі ў гадзіну. Частка мукі ідзе на корм птушкам, частка - на камбікормавы завод у абмен на камбікорм.

Валожын наведаў мітрапаліт Філарэт. Сярод іншага ён надаў чын пратаіерэя мясцоваму святару айцу Дзмітрыю.

Астравец стаў апошнім часам месцам семінараў. На мінулым тыдні тут раіліся ахоўнікі прыроды, напeрадзе сустрэчы гандляроў, прафсаюзаў.

На базе мядзельскага АП №7 прайшла вучоба спецыялістаў Міністэрства транспарту і камунікацый. Каля 100 чалавек штодзень наведвалі заняткі, пасля якіх здавалі залікі і атрымалі адпаведныя пасведчанні.

Не толькі лясным зайцам усё цяжэй жыць. Аўтобусныя нядаўна з сумам даведаліся, што ў сталічнай вобласці рэзка падвышаны штраф за безбілетны праезд - да 75 тысяч (50% мінімальнай зарплаты).



## Навіны

### Пагранічныя дружыны

***АСТРАВЕЦ. Пра дзейнасць добраахвотных дружын садзейнічання пагранічным войскам ведаюць нямногія, як і пра іх існаванне таксама. Можа, падобнае звязана са спецыфікай работы, але такія дружыны ўжо не першы месяц існуюць пры мясцовай пагранкамендатуры.***

А нядаўна на базе пагранпаста "Кямелішкі-2" прайшоў раённы злёт такіх дружын. На ім падводзіліся вынікі дзейнасці гэтых фарміраванняў, якія, прынамсі, былі някепскімі, бо, дзякуючы дапамозе дружыннікаў, затрымана кантрабанднага тавару на 1500 долараў ЗША, чатыры парушальнікі мяжы.

Лепшымі прызналі Палушскую і Кямелішскую дружыны, якія задаволіліся граматамі.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

### Лясныя браты

***МАЛАДЗЕЧНА. Два тыдні правялі ў лесе больш як пяцьдзесят школьнікаў розных узростаў.***

На шчасце, тэрарысты тут ні пры чым. І незайздросны лёс напатакаў бы іх у лесе, бо там праводзілі свае зборы выхаванцы клуба "Юны дэсантнік". Трохразовыя на дні заняткі каратэ, стральба, ваджэнне матацыкла, дэсантная паласа, байдарка - асноўныя віды лясной дзейнасці школьнікаў, самым малым з якіх крыху больш за 8.

Кіраўнік клуба Анатоль Казлоў упэўнены, што моладзь належыць выхоўваць у працы, каб, да прыкладу, нават гарадскія юнакі маглі нарыхтаваць дровы ў лесе, а дзяўчаты згатаваць ежу ў паходных умовах.

Цяжкасці ляснога жыцця, несумненна, пойдуць на карысць выхаванцам клуба. Штогод ёсць шмат жадаючых зноў і зноў прыехаць сюды, каб два тыдні "карміць камароў" і падвяргаць сябе вялікім нагрузкам.

*Аддзел інфармацыі.*

### Нарадзіўся "пінгвін"

***ВАЛОЖЫН. Зразумела, з'явілася не элегантная чорна-белая антарктычная істота, і нават не кафэмарожанае з тэматычнай назвай. Проста калектыву ААТ "Валожынскі маласасырзавод" надакучыла аадаваць за бясцэнак адходы вытворчасці цвёрдага сыру слуцкім калегам.***

Вырашылі самі рабіць плаўленыя сыры - першынцам якраз і атрымаўся "Пінгвін". Не страчваць свой законны прыбытак - жаданне натуральнае. Тым больш, што для выпуску плаўленых сыроў ёсць на заводзе і ўласнае і масла, і сухое абястлушчанае малако. Набытае і абсталяванне.

У зімовае міжсезонне масласырзаводцы плануюць вырабляць маянез, кетчуп, разнастайныя соусы. Сапраўды, лепш называцца кетчупаробам, чым сядзець зімой у вымушаным адпачынку.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

### Каментарый як выйсце з сітуацыі

***АСТРАВЕЦ. У панядзелак раённы суд разглядаў даволі нязвыклую і неардынарную грамадзянсую справу.***

Дэпутат райсавета Іван Крук праз суд хацеў устанавіць справядлівасць: надрукаваць у газеце "Астравецкая праўда" артыкул, дзе выкрываюцца злоўжыванні некаторых кіраўнікоў у раёне. Змясціць артыкул раней яму было адмоўлена.

Але ў судзе абодвум бакам - рэдактару газеты і дэпутату было прапанавана знайсці кансенсус. Вырашана, што ў хуткім часе ў "Астравецкай праўдзе" з'явіцца артыкул, а рэдакцыя пакідае права на свае каментарыі да яго.

*Аддзел інфармацыі.*

# ...вучыць беларусаў быць беларусамі

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.*

Нават як з гэтым сцягам. Павага да сцяга, які быў хвілінку, з'явілася, умацавалася. І яна, павага, ёсць. Раптам на нейкім спартыўным спаборніцтве з'яўляецца бела-чырвона белы сцяг! Знаеце, я паляк, але ў душы ўзнікае нешта такое, чаго нельга сказаць! Гэта спорт, але для людзей далей нараджаецца думка— мы беларусы. Нават з Пагоняй не тое. Бо нехта мае такое самае, але такога сцяга не мае ніхто!

**— Пан Войцэх, у сувязі з гэтым дазвольце запытаць. Кажуць, што Руская праваслаўная царква на Беларусі— гэта русіфікацыя. Каталіцкі касцёл— паланізацыя. Як вы глядзіце на гэтую праблему?**

— Вельмі складаная справа. Чаму? Калі я прыехаў сюды, сем год таму, першае, што я стаўлю сабе на мэту— вывучыць беларускую мову. Складана, таму што не было ад каго вучыць. А па-другое— людзі не хацелі імшы на беларускай мове. І мне давялося вучыць гэтых людзей імшы на беларускай мове. І шэсць год яна ў нас ідзе тры дні на тыдзень па-беларуску, тры дні на тыдзень па-польску. А тры гады таму я пачаў рабіць казанні па-беларуску. Так, каб было людзям зразумелым. Не звяртаючы ўвагі, што падабаецца гэта ім або не. Я не дзіўлюся. Большасць вернікаў— людзі пажылыя, яны памятаюць касцёл даваеннага часу, калі імша была на лаціне, а ўсё астатняе— па-польску. Калі цяпер ім увесці адразу беларушчыну, то касцёл можа здацца быццам чужым. Яны, напрыклад, прыходзяць да мяне і кажуць: ксёндз, мы хочам, каб ты вёў імшу на польскай мове. Пытаюся: а чаму вы са мной гаворыце па-беларуску, што хочаце імшы на польскай мове? Адказваюць: бо нам так падабаецца. Зараз, праўда, ужо інячай. Сем гадоў прайшло. Яны мяне не папракаюць, што праўлю службу па-беларуску. Але праблема як уводзіць беларускую мову, яна застаецца. На Гродзеншчыне, Брэстчыне яна мусіць быць яшчэ больш складанай.

Калі Беларусь хоча быць самастойнай, калі хоча, то яна павінна выпрадукаваць сваіх людзей. Калі, напрыклад, праваслаўныя вернікі прыйдуць у царкву і скажуць: бацюшка, мы хочам, каб ты нам казаў па-беларуску. Калі яны прыйдуць адзін раз, другі, трэці, то не адзін бацюшка не ўстоіць. Калі прыйдуць вернікі да мяне, праўда з гэтым да мяне яны не мусяць прыходзіць, але да любога ксяндза і скажуць: наш бацька памёр, мы беларусы і хочам каб ты праводзіў пахаванне па-беларуску... Ну раз можа не пагадзіцца, другі, але за трэцім пастановіць: калі яны з гэтым прыходзяць, значыць, ім трэба. Атрымліваецца ж, што польскі ксёндз вучыць беларусаў беларускай мове.

**— Нонсэнс.**

— Не нонсэнс, але пераходны перыяд і яго трэба прайсці.

**— Апошняе пытанне. Вы ведаеце, хто прыйдзе на вашае месца?**

— Ведаю, але не хачу аб гэты гаварыць, бо проста ў нашым касцёле такая традыцыя. Я прыехаў сюды таму, што тады яшчэ ў Савецкім Саюзе не хапала ксяндзоў. Думаў, на год-тры. Лічу і цяпер, што ксёндз павінен быць у прыходзе тры-чатыры гады, каб зрабіць што трэба і каб людзі не прызвычаіліся вельмі, каб ім было пазней лягчэй прыняць другога ксяндза. Я гэтым людзям гавару кожныя паўгода, што збіраюся ад'язджаць. Не дзеля таго, каб яны прыходзілі і прасілі мяне застацца, але каб яны ведалі, што гэты момант набліжаецца. Каб не атрымалася так, што прыйшоў іншы, а парафіяне кажуць: мы такога не хочам, бо ён нешта робіць не так, як яго папярэднік. І я вам скажу. Дзеткі, якіх я хрысціў тады, калі толькі сюды прыехаў, сёлета ідуць у школу. Вось і перамена— яны ў школу, а я дадому.

*Гутарыў*
*Мікола ГАЙДУК.*

## Падпіска-97

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на РЭГІЯНАЛЬНУЮ газету**

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА на РЭГІЯНАЛЬНУЮ газету**

| ПВ | месца | літар |
| --- | --- | --- |
| | | |

63212 (індэкс выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
| --- | --- | --- | --- |
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)



## Крымінал

### Святло на здарэнне?

*АСТРАВЕЦ. Супрацоўнікамі міліцыі непадалёк ад пасёлка на адной з фермерскіх гаспадарак знойдзены разгружаны спірт, а таксама два крадзеныя аўтамабілі (пра здарэнне "РГ" пісала ў апошніх нумарах).*

Выяўлены і трэці "КамАЗ". Месцазнаходжанне астатніх аўтамабіляў пакуль невядомае. Следства працягваецца.

*Аддзел інфармацыі.*

## Пад Замкавай гарой

# Гісторыя іх старая і загадкавая

*ВІЛЕЙКА. Мала хто не ведае Кіева-Пячорскія лаўры і іх старажытнейшую частку далёкіх падзямелляў – Варажскую пячору, у якой, па паданні, "злата и серебра множества, и сосуды многоценные". А хто не чуў пра Полацкія лабірынты, у якіх быццам бы, да гэтага часу захоўваецца багацейшая ў Вялікім княстве Літоўскім бібліятэка Сафійскага сабора? А вось падзямеллі Замкавай гары, якая знаходзіцца ў ваколіцах вёскі Рэчкі, што на Вілейшчыне, амаль нікому невядомыя. Хаця іх гісторыя такая ж старая і загадкавая...*

Аб паходжанні гэтага падзямелля існуе прыгожая легенда, якую перадаюць з пакалення ў пакаленне мясцовыя жыхары.

На пагорку, што ўзвышаецца над дарогай, стаяў вялізны змрочны замак. Князь, які валодаў ім, быў злосным і жорсткім чалавекам. Ён бязлітасна эксплуатаваў сваіх слуг, пераварваючы ўсё, што яны вырасцілі і сабралі, у золата, якое хаваў у самай высокай вежы замка.

Аднойчы па гэтай дарозе ішоў, абапіраючыся на кій, сівы стары. Калі ён спыняўся на адпачынак, то пеў пра людскія слёзы, прычынай якіх сталі злосць і жорсткасць князя, яго бязмежная прага да золата.

Пачуўшы па спевака, князь загадаў схапіць яго, прывесці ў замак і прылюдна пакараць смерцю. Слугі выканалі загад князя. Але перад смерцю стары паспеў вымавіць праклён, у якім гаварылася, што князь разам з замкам і золатам праваліцца пад зямлю і будзе асуджаны вечна пільнаваць свой скарб.

Усю наступную ноч бушавала бура. А калі развіднела, людзі ўбачылі на месцы замка пустэчу, пасярэдзіне якой зеўраў уваход у замак, што стаў падзямеллем. Але ніхто не рашаўся ўвайсці туды, баючыся князя, які сцеражэ сваё золата.

Гэтую прыгожую легенду можна паспрабаваць патлумачыць, падзяліўшы яе на тры часткі.

### Стары

З хрышчэннем Полацкай зямлі язычніцкая рэлігія была забаронена. Але служкі паганскага культу, вешчуны і чарадзеі, працягвалі пакланяцца сваім багам, тым самым утрымліваючы народ ад пераходу ў хрысціянства. А паколькі хрысціянская рэлігія тлумачыла і падтрымлівала цэнтралізаваную ўладу князя, а паганская дапускала адносную эканамічную і палітычную свабоду, то, натуральна, князі ўсімі праўдамі і няпраўдамі змагаліся з язычніцтвам і ў першую чаргу з яго служкамі.

Магчыма, стары, пра якога згадваецца ў легендзе, быў адным з гэтых служкаў-вешчуноў і прапаведваў дзедаўскую веру. А князь вымушаны быў пакараць яго смерцю, тым самым выкараніўшы вальнадумства і ўмацаваўшы сваю ўладу.



### Замак

Выпадак, які апісваецца ў легендзе, адносіцца да пачатку другога тысячагоддзя - часу бясконцых войнаў, міжусобіц Полацка з Кіевам, нашэсця нямецкіх рыцараў, набегаў манголататараў. Таму хутчэй за ўсё ў час аднаго з такіх канфліктаў замак быў разбураны і спалены. А пазней ужо людская пагалоска звязала гібель вешчуна са знікненнем замка, што і нарадзіла гэтую загадкавую легенду.

### Золата

Ці было яно? Згадку пра першае даследаванне Замкавай гары можна знайсці ў "Материалах по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии", выдадзеных у 1896 годзе ў Віцебску. Гэтая літаратура захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы. Пры раскопках Замкавай гары знакаміты беларускі археолаг А. Кіркор знайшоў залаты эфес шаблі. Значыць, золата ўсё ж такі было?

Вось што расказаў адзін з жыхароў вёскі Рэчкі.

Да другой Сусветнай вайны ён сам і яшчэ некалькі хлопцаў вырашылі прабрацца ў падзямелле. Узброіўшыся вяроўкай, рыдлёўкай і ліхтаром "Летучая мышь", які запрагаўся газай. Адзін канец вяроўкі замацавалі ля ўваходу ў падзямелле, другім абвязаліся самі і гужам пачалі рухацца па нахіленым ходзе, што вёў у глыбіню гары. Але яны змаглі прайсці метраў з дзесяць, як раптам патух ліхтар і зрабілася цяжка дыхаць. Даследчыкаў апанаваў страх і, не дамаўляючыся, яны кінуліся да выхаду.

Расказвалі старажылы яшчэ пра дзве спробы праброцца ўглыб гары.

Першую зрабіў мясцовы настаўнік. Праўда, ён не сам спусціўся ў падзямелле, а адправіў туды сабаку, прывязаўшы да яе аброжка вяроўку. Сабака прайшоў углыб гары метраў з дваццаць, пасля чаго застаў на месцы. Прыйшлося цягнуць за вяроўку з усёй моцы. Жывёла была ў непрытомнасці.

У час вайны ў падзямелле спрабавалі пранікнуць немцы. Але, баючыся, што там могуць хавацца партызаны, кінулі туды звязку гранат. Уваход часткова абрынуўся, і чарговая спроба не атрымалася.

У 1990 годзе я з таварышам упершыню трапіў на Замкавую гару. Да таго часу ўваход у падзямелле ператварыўся ўжо ў пясчаны адхон. Але затое непадалёк мы знайшлі свежыя прамавугольныя шурфы, размешчаныя ў шахматным парадку. Значыць, пошукі золата працягваюцца.

Шкада, што былыя і новаспечаныя скарбашукальнікі не ведаюць, што скарб па-ранейшым сцеражэ злосны і жорсткі князь.

*Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.*

## Кантрабанда

*АШМЯНЫ. Супрацоўнікі мытні затрымалі на мінулым тыдні дзве машыны з півам.*

У кожнай было па 46 тысяч бляшанак. Як высветлілася, да мытнага афармлення дакументы на тавар былі атрыманы незаконным шляхам. Матэрыялы па справе накіраваныя ў суд. А піва ў Растоўскую вобласць, натуральна, не трапіла.

*Аддзел інфармацыі.*

## У "дурня"? А чаму б і не!

*МАЛАДЗЕЧНА. Клуб інтэлектуальных гульняў "Папараць" запрасіў усіх узяць удзел у першынстве горада па гульні ў парнага картачнага "дурня".*

Правілы гульні знаёмыя ўсім з дзяцінства і, мусіць, не знойдзецца ніводнага чалавека, які б ні разу ў жыцці не згуляў у гэтую сапраўды народную гульню. Турнір пройдзе ў нядзелю, 22 чэрвеня, у памяшканні клуба шахматаў і брыджу па вул. Чапаева, 2. Удзельнікі мяркуюць сабрацца а 12-й гадзіне.

**Запрашаюцца арганізацыі-спонсары, якія падтрымаюць удзельнікаў незвычайных спаборніцтваў. Даведкі і прапановы па тэл. у Маладзечне 54602.**

Таксама падчас летніх канікулаў у шахматным клубе будзе арганізавана шахматная секцыя. Тут чакаюць хлопчыкаў і дзяўчынак, незалежна ад таго, ці могуць тыя гуляць у шахматы. Арганізацыйны збор - у суботу, 21 чэрвеня, таксама а 12-й гадзіне.

*Віталь КАЧАТКОЎ.*

## Суббота, 21 июня

**БТ**

**8.00, 15.00, 21.00** Новости. **8.15** Здоровье. **8.45** Все про все. **9.10** "Под углом 23,5 градуса". **9.35** Уроки Н.Новожиловой. **10.05** Регион. **10.35** "Судьба моя и надежда". **11.05** Зеркало. **11.25** "Музыкальная обойма". **11.40** Четвертое измерение. **12.05** "Али-Баба и сорок разбойников". М/ф. **12.40** Многоголосие. **13.10** Вселенная. **13.40** Телеспорт. **14.25** Творцы. **15.20** Силач. **16.00** Второй Международный фестиваль народной музыки "Звенят цимбалы и гармонь". **16.45** "Риск-версия". **17.15** Белорусский дом. **17.45** Зорная ростань. **18.25** Галерея. **18.55** Х/ф "Найти и обезвредить". **20.20** История любви. **20.40** Колыбельная. **21.45** Теленавигатор. **22.05** Х/ф "Полеты во сне и наяву". **23.40** Видимо-невидимо.

**1 ОРТ**

**7.00** Х/ф "Жажда". **8.20** М/ф. **8.40** Лотто-Миллион. **8.45** Домашняя библиотека. **9.00, 14.00, 17.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** Утренняя почта. **10.05** Каламбур. **10.40** Смак. **10.55** Возвращение Третьяковки. **11.20** Х/ф "Цыган". **13.00** Пресс-клуб. **14.20** Очевидное — невероятное. **14.50** М/ф. **15.45** Америка с М.Таратутой. **16.15** "Колесо истории". **17.20** В мире животных. **17.55** Погода. **18.05** Х/ф "Женя, Женечка и "катюша". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.55** Х/ф "Когда мы встретимся вновь". 3-я с. **21.50** Что? Где? Когда? **23.00** Х/ф "Экспромт".

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **8.05** "Меморина". **8.30** Клуб "Адреналин". **8.45** Доброе утро, страна! **9.30** В мире животных. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** "Хочу в артисты!" **10.55** Арена для сенсаций. **11.20** М/ф. **11.35** Песня России. **12.30** Анонимные собеседники. **13.00** Вести про... **13.20** Караоке по-русски. **13.50** Наш сад. **14.15** Двойной портрет. **14.45** Бесконечное путешествие. **15.20** Мужчина и женщина. **16.00** Телескоп. **16.40** Богема. **17.35** Старая квартира. Год 1954. **19.00** Вести. **19.35** Сам себе режиссер. **20.15** "Анна и Командор". Х/ф. **21.55** Момент истины. **22.50** Волейбол. Мировая лига. **23.50** Репортер. **0.10** Программа "**А**".

**5**

**9.30, 12.30, 15.30, 18.30** Информ ТВ. **9.45** Хуторок. **10.15** "Честь имею". **10.45** М/ф. **11.05** "Необузданная Африка". Док.сериал. **12.00** Ток-шоу "Наобум". **12.45** Страсти-мордасти. **13.05** Телетеатр Р.Агамирзяна. **14.45** Исторические расследования. **15.45** Спортивное обозрение. **16.05** "Подщипа". Спектакль по пьесе И.А.Крылова. **16.50** Телестанция "Моя Россия". **17.25** Телемагазин. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** "Несколько интервью по личным вопросам". Х/ф. **20.45** Блеф-клуб. **21.30** Светская хроника. **21.45** "Парад парадов" представляет. **22.15** "Отражение в зеркале". Х/ф.

**НТВ**

**7.00** Сегодня утром. **9.00** М/ф **9.30** "Пойми меня". **10.00** Х/ф "Воины времени". **10.45** <u>**От "Винта"**</u>. **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Х/ф "Благие намерения" (Франция-Италия). **14.10** М/ф "Летучий корабль". **14.30** "Панорама" с Всеволодом Овчинниковым. **16.00** Х/ф "Вопреки всему". **17.20** М/ф. **17.30** Дог-шоу. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.30** Герой дня без галстука. **18.55** Х/ф "Кошмар на улице Вязов" (США). **20.45** "Куклы". **21.45** "Мафия". Фильм 2-й. **22.30** "Империя страсти". **23.10** Х/ф "Клют" (США). **1.10** "Плейбой-шоу".

**TV6**

**6.00, 7.00, 18.05, 20.10** Шесть новостей. **6.10** Музыка кино: Марина Ладынина. **6.30** 12 копеек. **7.10** Дорожный патруль. **7.40** Ералаш. **8.10** "Цептер"-приз. **8.35** Х/ф "Дружок". **9.50** Это мы не проходили! **10.25** Дикая природа Австралии. **10.55** Д/ф "Обыкновенный фашизм". 1-я с. **12.15** Открытия недели. **12.55** Диск-канал для детей. **13.55** Ток-шоу "Я сама". **14.55** Профессия. **15.45** Клуб одиноких сердец. **16.20** Х/ф "Элли и Джулс". **17.45** Киноподробно. **18.15** Диск-канал. **18.55** Скандалы недели. **19.25** ОСП-студия. **20.15** Фитиль. **20.25** Парад чемпионов. **22.25** Обоз. **23.20** Дорожный патруль. **23.35** Х/ф "Дамский портной".

## Воскресенье, 22 июня

**БТ**

**8.00** "Коктейль по воскресеньям". **9.00** Телебом. **9.30** Мультиклуб. **10.00** Вершина мира. **10.35** "Все нормально, мама!" **11.10** Туробъектив. **11.40** Арсенал. **12.10** "Война в воздухе". **12.35** Сельчане. **13.05** Телек-шоу. **13.20** Олимп. **13.40** Города и люди. **14.10** Хатынь **14.20** Аплодисменты. **15.00** Новости. **15.15** Компьютерный полигон. **15.45** Уникум. **16.20** Киноконцерт. **16.45** Золотые ключи. **17.15** Оскар. **17.45** Х/ф "Возьму твою боль". **19.10** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50 СТК. 21.10** Телебарометр. **21.25** Карамболь. **22.00** Х/ф "Баллада о солдате". **23.30** Бархатный сезон.

**1 ОРТ**

**7.00** Х/ф "Вторжение". **8.30**М/ф "Межа". **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00, 22.30** Новости. **9.15** "Непутевые заметки" Дм.Крылова. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Служу России! **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** Сельский час. **12.25** "Подводная одиссея команды Кусто". **13.20** Смехопанорама. **14.15** Приглашение к музыке. **14.45** Клуб путешественников. **15.30** Мультфейерверк. **16.15** Футбольное обозрение. **16.45** Один на один. **17.10** Счастливый случай. **18.00** Погода. **18.10** Х/ф "Добровольцы". **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.40** "Когда мы встретимся вновь". 4-я с. **21.35** Концерт военного ансамбля и группы "Любэ". **22.40** Х/ф "Обезьяна зимой".

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **7.55** Торговый дом "Ле Монти". **8.10** "Солти". **8.35** "У всех на устах". **8.50** "Русская Троя". **9.30** Присяга. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Русское лото. **10.55** Без пяти двенадцать. **11.00** Книжная лавка. **11.25** Человек на Земле. **11.50** Репортаж ни о чем. **12.05** "Во имя жизни и любви". Д/ф. **13.00** Вести. **13.20** Сад культуры. **13.50** Волшебный мир Диснея. **14.45** Довгань-шоу. **15.15** Футбол без границ. **15.45** Миссия. **16.15** Весь мир. **16.55** Вечер с А.Гурновым. **17.20** Удивительный мир. **17.35** Милые дети. **17.40** "Виктория". Фестиваль солдатской песни. **18.35** РТР в гостях у телезрителей. **18.45** "Ситуация". **19.00** Зеркало. **20.00** "Отряд". Х/ф. **21.45** "К-2" представляет: "Сюжет". **22.40** У Ксюши. **23.15** Волейбол. **0.15** Рек-тайм. **0.30** Гороскоп и видеомедитация.

**5**

**9.30, 12.30, 15.30** Информ ТВ. **9.45** Папа, мама и я — спортивная семья. **10.15** Б.Бриттен. "Военный реквием". **10.45** М/ф. **11.10** "Необузданная Африка". **12.00** Роман с героем. **12.45** Экспресс-кино. **13.05** "Ленинградская симфония". Х/ф. **14.35** Телефильм. **14.45** "Любви роскошная звезда". Г. Горчакова. **15.45** Спорт. **16.05** Детское ТВ. **16.55** Телестанция "Моя Россия". **18.30** Обратный отсчет. **19.00** "22 июня, ровно в 4 часа". Х/ф. **20.45** Ноу смокинг. **21.30** У всех на виду. **21.45** Международное обозрение. **22.15** "Черный кот". **22.45** "Кадкина всякий знает". Х/ф.

**НТВ**

**7.00** Сегодня утром. **9.00** Устами младенца. **9.30** Пойми меня. **10.00** Х/ф "Воины времени". **10.45** <u>**От "Винта"**</u>. **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Книжный магазин. **12.30** Маски-шоу. **13.00** "Каролина в Нью-Йорке". **13.30** Новости Голливуда. **13.45** Недотепы. **14.00** Время "Ч". **14.30** Своя игра. **16.00** Х/ф "Прощание славянки". **17.30** Русские гвозди. **18.00** Сегодня вечером. **18.30** Хиты XX века: Глен Миллер. **19.00 Премьера** шоу-программы "Перехват". **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Дочь д'Артаньяна" (Фр). **23.35** Третий глаз. **0.15** Плейбой-шоу.

**TV6**

**6.00, 7.00, 16.50** 6 новостей. **6.10** Песни о войне. **6.30** Скандалы недели. **7.10, 18.00** Дорожный патруль. **7.35** М/ф **8.00** Ванька-встанька. **9.45** Пальчики оближешь. **10.15** Назло рекордам! **10.50** "Обыкновенный фашизм". **12.05** Канон. **12.40** Музыка и пресса. **13.35** Сделай шаг. **14.30** Спорт. **15.10** Ералаш. **15.40** Москва военная. **15.55** "Элли и Джулс". **17.00** Концерт "Для вас, ветераны!" **17.45** Телеконкретно. **18.20** "Обозреватель". **19.10** "Фитиль". **19.25** Х/ф "Аты-баты, шли солдаты". **21.10** Х/ф "Змеиное яйцо". **23.25** "Партийная зона". **0.50** Диск-канал "Выше только звезды!"

*Поўныя кішэні музыкі*

# Дэміс Русас жыве ў Вілейцы

***Чамусьці гэтую гутарку хочацца папярэдзіць вядомым выказваннем Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага - "прыгажосць выратуе свет". Магчыма, тая самая прыгажосць, якая ірвецца з нас праз фарбы, музыку, песню. І калі раптам вам захацелася спяваць, але вы не можаце зразумець - гэта мінутнае насланнё ці талент, што нечакана прачынаецца, з'ездзіце ў Вілейку. Знайдзіце там Валерыя Рыгоравіча Скаражонка, ці проста Валеру, таму што такая цёплая сяброўская аура гэтага чалавека, і праспявайце яму. А раптам вы ўсё ж будучая зорка эстрады?***

— <u>*Вельмі хутка ў Віцебску адбудзецца чарговы "Славянскі базар". Ці ёсць шанц убачыць там нашага земляка Валерыя Скаражонка*</u>?

— Так, спяваць у Віцебску я буду. Толькі гэта адбудзецца на сцэне нядаўна пабудаванага казіно "Русь", куды мяне запрасілі. Каб пець на галоўных падмостках, патрэбна прайсці папярэдні жорсткі адбор.

Увогуле менавіта ў Віцебску 9 год таму пачаўся мой шлях як эстраднага спявака і выканаўцы. У 1988 годзе выйшла пласцінка, складзеная з нумароў першага віцебскага фестывалю, на ёй ёсць і мае песні. Потым быў "Сопат", гастролі па краіне. Я спяваў на чатырох мовах: рускай і беларускай, італьянскай і польскай.

Рыхтаваўся выступіць у італьянскім горадзе Турыне. Але ў Маскве выбухнуў путч, палітычнае становішча ў краіне мянялася, распаўся СССР. Так у Італію і не трапілі, і тое, што ў Рызе на курсах вывучаў італьянскую мову, тады не спатрэбілася.

— <u>*Палітыка адбілася на тваёй музычнай кар'еры, як ты лічыш, чалавек мастацтва павінен быць па-за палітыкай*</u>?

— Людзі творчыя і палітыка - гэта несумяшчальна. Як грамадзянін, ты можаш галасаваць, выбіраць. Але пры чым тут музыка?

— <u>*Сапраўды. Што было далей, як ты апынуўся ў Вілейцы*</u>?

— Я тутэйшы. Вярнуўся сюды ў 1993 годзе. Сустрэў старога сябра Юру Касцюкевіча. Ён прапанаваў стварыць групу. Знайшлі знаёмых музыкантаў, сабралася сем чалавек. Ансамбль назвалі "Землякі". Праз нейкі час да нас пачалі прыходзіць маладыя хлопцы, дзяўчаты, якія хацелі паспрабаваць пець. Я іх праслухоўваў, але не так, як у музычных школах гэта робяць, а намагаючыся ўбачыць індывідуальнасць, іскрынку, свой стыль, тое, што потым робіць выканаўцу прыкметным і запамінальным. Дарэчы, я ніколі не спяваю пад фанаграму. Голас павінен быць заўсёды жывы. Таму я прапаную ім спець пад запіс вядомай музыкі. Паступова наш калектыў пачаў разрастацца.

— <u>*"Землякі" перасталі быць проста ансамблем*</u>?

— Мы выраслі да "Тэатра эстраднай песні "Землякі". Зараз нас 18 чалавек рознага ўзросту. Ад пяцігадовай Каці Карабко да Сяргея Шкурдзе, якому 22 гады. Я і Юра займаемся аранжыроўкамі, астатнія спяваюць. Ёсць адзін артыст размоўнага жанру, маладзечанец Юра Круглік, з яго вырасце цудоўны вядучы, канферансье.

— <u>*А ці ёсць вучні, якія "засвяціліся" за межамі Вілейкі*</u>?

— Таццяна Ліўнік - лаўрэат прэміі "Тэлебома". Вялікая надзея - Сяргей Шкурдзе *(на фота)*. Ён выступаў на "Зорнай ростані", цяпер паступае ў музычнае вучылішча. Таленавітай моладзі многа, толькі зараз беларуская эстрада - мёртвая кропка, дзе надта многа "упёртых" старых мэтраў. Праз іх прабівацца - праца бязрадасная.

— <u>*Але нейкія планы на будучае складаеце*</u>?

— Ёсць задумка - стварыць самастойную канцэртную арганізацыю. Вось і гарвыканком нам дапамагае. Наш мэр - Пётр Міхайлавіч Юдо- любіць музыку, увогуле культуру, спадзяемся на яго садзейнічанне.

— <u>*Вілейка вельмі радуе. Нядаўна ў вас выставачная зала адкрылася.*</u>

— Так, я спяваў на адкрыцці. Яшчэ вось запісваем першую песню, якая ўся - наша. Словы напісаў Мікалай Патаповіч, у мяне склалася музыка. Песня аб нашым горадзе.

— <u>*Якому ў 1999 годзе споўніцца 400 год. Валера, а чым ты займаешся для сябе, для душы*</u>?

— Атрымліваю асалоду ад блюзаў Сэма Браўна, вельмі люблю паслухаць пан-флейту, ёсць такая тэма "Адзінокі пастух"... Стары хард-рок, на ім я выхаваны - "Led Zeppelin", "Pink Floyd". Яшчэ "Queen", "Beatles". Люблю Дэміса Русаса, на якога я падобны, таму і атрымаў жартоўнае прозвішча "Дэміс Беларусас". З нашых падабаецца, як працуе "Палац".

Цяпер робім яшчэ і дыскатэку. Трэба знаць сучасную маладзёжную музыку. Нядаўна ў нас адбыўся абласны фестываль. Да нас з розных гарадоў дзіджэі прыехалі, прывезлі свае праграмы. Журы было з Мінска. Мы занялі другое месца.

Да таго ў мяне ёсць сольная праграма. Граю на гітары балады, вясёлае кантры, спяваю, рамансы ў тым ліку. І галоўнае - анекдоты. Іх я збіраю ўжо 15 год, ёсць такі спецыяльны блакноцік. Хаця анекдот трэба спачатку ўспрыняць, пераварыць, потым перадаць. Гэта вусная народная творчасць - у гэтым сутнасць анекдота. На мой погляд лепшы расказчык анекдотаў - Юрый Нікулін. На жаль зараз выдаецца шмат газет, кнігі. У такім выглядзе анекдот многае страчвае. Таму каб пачуць нешта з майго блакноціка прыходзьце на канцэрты.

***Пасля размовы мы ішлі па вуліцы, кожны сустрэчны пазнаваў Валеру, ветліва вітаўся. Вілейка - маленькі горад. Дзе жывуць такія вось вялікія людзі.***

*Гутарыў Алег ГУЛЕЦКІ.*



*На падмостках Валера Скаражонак — раней і цяпер.*

## *Ствараецца фан-клуб. Далучайцеся!*

***Фаны і фанкі! Калі вы захапляецеся беларускай рок і поп-музыкай, наогул беларускай эстрадай, калі вы хочаце набыць добрых сяброў і прыемна правесці свой вольны час - хадзем да нас, у Фан-клуб! Наш Фан-клуб працуе на развіццё і ўмацаванне пазіцый беларускага па свайму духу і зместу шоў-бізнесу.***

У нас вы можаце набыць аўдыё-касеты з беларускімі запісамі праз альтэрнатыўную сетку распаўсюджвання Фан-клуба. Азнаёміцца з каталогам касет, даведацца пра іх кошт, а таксама замовіць касеты вы можаце ў кіёску Таварыства беларускай мовы на чыгуначным вакзале, альбо па тэлефоне 33660 у Сяргея.

Па выніках продажу касет мы будзем складаць свой мясцовы беларускі хіт-парад, сачыць за ім вы зможаце, чытаючы "Рэгіянальную газету" і слухаючы "Маладзёжны Гасцінец" на маладзечанскім радыё. У канцы года будуць падводзіцца вынікі нашага хіт-парада, і яго пераможца, беларускі гурт ці выканаўца, стане госцем "РГ" і "Маладзёжнага Гасцінца", а таксама выступіць з канцэртам у адным з гарадоў рэгіёна.

А таму мы просім вас вызначыць тры, на ваш погляд, лепшыя беларускія гурты і трох лепшых выканаўцаў.

Узнікае яшчэ адно пытанне: ці варта ўносіць у хіт-парад беларускія гурты, якія спяваюць на іншых мовах (рускай, як "Ляпіс Трубецкой", ці англійскай).

<u>Кантактныя тэлефоны</u>: 33660, 51060, 54990.

*Выканаўчы дырэктар ФКБМ*
*Сяргей ЮРКЕВІЧ, Маладзечна*




**Фан-клуб шукае**
**<u>БЕЛАРУСКАМОЎНАГА</u>**
**дзіджэя**

## Віртуальныя цацкі

# DOOM-II - "Дум" удваіх



Надвор'е стаяла такое добрае, што я вырашыў пашукаць свайго сябра. Пасля доўгіх блуканняў з гранатамётам на плячы я пачуў знаёмы гук. На мяне выскачыла нейкая істота са зласлівай ухмылкай і бензапілой у руках. Я хутка ахвяраваў у той бок ракет 20. І так разоў з 40. Потым дадаў з кулямёта, бо істота рэгулярна ўваскрасала. Гук бензапілы сцішыўся і, нарэшце, знік. Акрываўленыя кавалачкі чамусьці нагадалі мне... Не. Я супакоіўся, і адразу зноў з'явіўся вораг! Праз імгненне мяне распілавалі на сотні маленькіх ігаркоў. На жаль, так і не давялося пабачыць сябра.

*Ігар ВОЙТКА.*

Учора я паляваў з бензапілой і мяне забілі. Разоў з сорак. Але гэта было так банальна - сотня куль, дзесятак ракет. Я не здаваўся - уваскрасаў, уцякаў, хаваўся, падкрадаўся і зрабіў гэта! Парэзаў свайго лепшага сябра на такія дробныя кавалачкі, што мама родная не пазнае. Добра, што ў мяне ёсць сябар! Каго яшчэ з такім задавальненнем пазбавіш жыцця? Цікава, каб Раскольнікаў любіў іграць у "DOOM" па камп'ютэрнай сетцы, ён паўйшоў бы забіваць бабульку? Думаю, не, бо бензапілаў тады не было, а сякерай - банальна.

*Мікі НОКС (Ігараў сябра).*

# 10 000 кніг за прыгаршчу лішніх манет

***Мне нядаўна пашанцавала: выпадкова набыў бібліятэку, а разам з ёй і калекцыю жывапісу. Чалавек я даволі заняты, шмат часу выдзеліць на любімы занятак выдаецца не заўсёды, а тут усё разам, уяўляеце? Ёсць там што пачытаць!***

Калі казаць пра паэзію – дык гэта Бродскі, Ахматава, Мандэльштам, Высоцкі. Калі пра маю даўнейшую слабасць – фантастыку, дык гэта поўны збор твораў братоў Стругацкіх, Айзек Азімаў, Рэй Брэдберы, Станіслаў Лем, і гэта толькі самыя знакамітыя імёны. Шматлікія працы філосафаў, як рускамоўныя, так і пераклады, тэксты ў арыгінале. Незлічоная колькасць даведнікаў...

Паўтары тысячы тамоў.

Яшчэ некалькі соцень палотнаў. Тут, праўда, не так шырока прадстаўлены сусветныя шэдэўры, як у бібліятэцы, але ж адно імя Сальвадор Далі значыць вельмі многа.

Скажаце: "Вось майстра байкі расказваць, пасаромеўся б!". Але ніякія гэта не байкі. Усё чыстая праўда, і бібліятэка мая перада мной. У невялічкай плоскай скрыначцы, што ляжыць побач з маім камп'ютэрам... Усе гэтыя скарбы захоўваюцца на адным лазерным дыску пад назвай "Text Collection by Harry Fan" v.1.0. Проза, паэзія, класіка, сучаснасць... Нават Біблію вы зможаце знайсці на гэтым невялічкім бліскучым кружочку.

Вы скажаце, што адна справа трымаць трохі зашмальцаваны томік, які, здаецца, жыве ў вас у руках, і зусім іншая – чытаць кніжку з экрана манітора? Розніца ёсць, і вялікая. Але ж гэта ваш выбар. Калі за нейкіх 7-8 долараў атрымліваеш, не пабаюся сказаць, скарб. Пытанне вольнага часу на некалькі гадоў знікае (уявіце прыкладна 600 000 старонак). Гэта надоўга. А каб вы ведалі, якія прыемныя пачуцці выклікае адно толькі адчуванне таго, што вы з'яўляецеся ўладальнікам такой бібліятэкі! Ну, вы мяне разумееце...



*Юрый Сівіцкі*

## Куды падзелі спірт з прабірак !?

***Настаўнікі, вы памыляецеся. А ў нас "доўгія" вушы і мы заўжды слухаем вас ну вельмі ўважліва. А нешта яшчэ і запісваем...***

Сядай, а то зараз аловак як паляціць, як трахне па ілбе.

Дзяўчынкі, вы ідзяце, рагочаце, быццам вас многа і вы ў лесе.

Калі я зараз падыду і нахілюся, вы ўвесь клас мыць будзеце.

Гэта як жа трэба сябе не паважаць, каб быць стадам такіх тупых бараноў.

Сядзелі ўтрох не на сваім месцы.

Задавальняючы свае патрэбы, заснуў на біялогіі.

Забыўся ўзяць у школу "Мёртвые души".

Забраў дадому спірт з прабірак.

*Падслухалі:*
*Таццяна Камарова, СШ №8,*
*Таццяна Мір, СШ №9,*

**GARAЖ**

Адказы на галаваломку з "мРГ" №2

| | | |
|---|---|---|
| 58 | 9 | 44 |
| 23 | 37 | 51 |
| 30 | 65 | 16 |





## Наша куханька

# Рэцэпт бессмяротнасці

***Увесь час чалавек лічыў, што прырода адвяла яму для існавання мала часу. Таму людзі адукаваныя імкнуліся знайсці шлях, што прывядзе да бессмяротнасці.***

У старажытнай Індыі лічылі, што смерць абыдзе, калі ўжываць сок аднаго з дрэў, у Рыме - плады свяшчэннага дрэва.

Аляксандр Каліёстра, Апалоні Ціянскі, Сен-Жэрмен быццам бы ведалі сакрэт бессмяротнасці. У дваццатым стагоддзі Цыялкоўскі неяк сказаў, што навука абавязкова падоўжыць жыццё чалавека. Швейцарскі ўрач Ніганс дзеля гэтага ўводзіў жадаючым сываратку з тканак лані.

У маскоўскім медінстытуце мышанятам давалі матачнае малачко пчол. Некаторыя вучоныя даказвалі, што, калі паменшыць тэмпературу цела чалавека на 2 градусы па Цэльсію, ён пражыве на 200 гадоў больш.

Але тым не менш чалавек жыве столькі, колькі яму адводзіць лёс

Можа, хто з чытачоў маладзёжкі цікавіцца гэтымі праблемамі?

*Алена МІЛАШ*
*Смаргонь.*
*(Дакладны адрас Алены ў рэдакцыі).*

## Zoo

# Пра дзятла

***Дзяцел абсталяваны дзюбай. Дзюба ў дзятла казённая. Ён дзяўбе. Калі дзяцел не дзяўбе, то ён спіць ці памер. Не дзяўбці дзяцел не можа. Таму што дзюба заўсёды пераважвае. Калі дзяцел дзяўбе, то па лесе разносіцца стук. Калі гучна, значыць, дзяцел добры. Калі ціха - дрэнны, нягодны дзяцел.***



Дзяцел можа пераскокваць з галінкі на галінку гэтак жа спрытна, як матрос з брамселя на бушпрыт. Памайстэрску кінуты дзяцел ляціць не менш як на трыццаць метраў, утыкаецца па пояс і вісіць дзве гадзіны. Мерканне ў дзятлаў заўсёды адмоўнае.

Моцны дзяцел можа дзяўбці за дваіх. Гіганцкі дзяцел (якія ў прыродзе не сустракаюцца) можа задзяўбці невялікага слана.

Сінхронныя дзятлы сустракаюцца толькі ў Аўстраліі і працуюць парамі, звеннямі і г. д., аж да палка. Дзень нараджэння дзятлаў пятніца. Доза, якую можа перанесці дзяцел,- 250 дэцыбелаў, ці 40 рэнтген, ці 150 вольт, ці 4 выспяткі.

Асобнага віду шалёных дзятлаў не існуе, аднак колькасць такіх у любой папуляцыі 77%. Ружовы спяваючы дзяцел, як і яго разнавіднасць, якая танцуе, сустракаецца, у асноўным, у месцах збору алкаголікаў.

Ручны дзяцел - з'ява такая ж рэдкая, як і нажны, таму што прыручыць дзятла можна толькі трыма цяпер забытымі старажытнымі словамі. Дамашні дзяцел захоўваецца закручаным у мяккую анучную тканіну і пры асцярожным абыходжанні не прачынаецца. У старажытнасці на Русі дзятлы служылі ў княжаскіх лазнях хадзячымі вешалкамі для бялізны, тоўчаныя і квашаныя дзятлы ўпрыгожвалі любое застолле, а рэдкі па прыгажосці дзвюхгаловы дзяцел паслужыў прататыпам для герба. І апошняе. Калі на якім-небудзь карнавале вы апранецеся дзятлам,- вас чакаюць слава, поспех і вялікая ўдача ў каханні.

*Рэкамендуемая літаратура:*

1. *"Камісары лесу". Мн., 1962 г.*
2. *"Наш маленькі гваздзіла". Дз., 1956 г.*
3. *"Птушка супраць танка". Ваенвыд., 1982 г.*
4. *"Дурашка с клювом". М., Кунилингус, 1994 г. (на рускай мове).*

*Роберт ЗАДУНАЙСКІ*
*(Глуск).*




# Хай атруцяцца мае ворагі!

***Падлеткі, якія кураць, павінны абгрунтоўваць сваю шкодную звычку. Калі дарослы будзе раіць кінуць цыгарэту, пераканайце яго ў адваротным.***



**Я куру, таму што:**

- я яшчэ малады і здаровы, але хачу хутка стаць старым і страціць сваё здароўе;
- я не хачу расці і развівацца - хачу застацца такім, як ёсць;
- я з радасцю напаўняю лёгкія дымам, таму і выглядаю такім "накачаным";
- у мяне шмат грошай і я з задавальненнем выпускаю іх у паветра;
- гэта самы лепшы спосаб атруціць паветра тым, з кім не сябруеш;
- я ў класе (групе) вельмі нервовы, а курэнне мяне супакойвае.

Давайце ўсе разам дапоўнім абгрунтаванне гэтай зусім не шкоднай звычкі. Пішыце, тэлефануйце, прыходзьце!



*Сяргей АЛЕЙНІКАЎ, САШМ.*

# Пазвані - дапаможам!

Калі табе цяжка на душы, не псуй настрой іншым. Дачакайся аўторка ці пятніцы. Увечары (з 17 да 20) набяры нумар тэлефона (01592) 22037 і парайся з псіхолагам - жыццёвыя праблемы вырашальныя. Пакрыўдзілі дома, не можаш знайсці агульную мову з аднагодкамі. Маладзёжны тэлефон даверу ў Смаргоні дапаможа.

## Навінкі

# 2 са 160

**ВАЛОЖЫН.**

Валерый Варановіч і Аня Тур - дзевяцікласнікі СШ №2 і беларускай гімназіі - без экзаменаў залічаны на гуманітарны факультэт Ліцэя пры Белдзяржуніверсітэце.

Ліцэістамі яны сталі па выніках алімпіяды, праведзенай гэтай прэстыжнай установай. Дарэчы, са 160 яе ўдзельнікаў толькі 4 залічаны без экзаменаў, сярод іх - і двое валожынцаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*



# ДОШКА АБ'ЯЎ

Аляксандр, Андрэй (па 14 гадоў), якія цікавяцца суднамадэльным спортам, шукаюць аднадумцаў. Маладзечна, вул Міру, 20, 64.

Аляксей (14 гадоў). Іграю на гітары. Хачу пазнаёміцца з цікавымі аднагодкамі. Маладзечна, вул. Міру, 34, 24.

## Пятніца, 13

# Навaражы здароўя, багацця і вялікага тыражу

**заканчэнне**

*- Заўсёды,як белы маг, працуеце з поспехам?*

- Бывае, чагосьці хачу, а вынікаў усё няма. Пачынаю хвалявацца. А вынік усё далей адсоўваецца. І тым не менш, з часам усё задуманае здзяйсняецца.

*- Можаце наваражыць, каб "маладзёжка" карысталася вялікім попытам?*

- Мяркую, яна і без маёй дапамогі стане папулярнай. А ўсім чытачам раю- слухайце свой унутраны голас, навучыцеся расслабляцца, выкіньце з галавы ўсё негатыўнае. Адразу адчуеце сябе здаровымі.



*Здаровай сябе адчула Таццяна ЖОГЛА, САШМ.*

**Над трэцім выпускам укладыша для маладых працавалі:**
*Таццяна Камарова, Вольга Бобрык, Таццяна Мір, Таццяна Жогла, Сяргей Алейнікаў, Ігар Войтка, Ірына Бандарык, Ягор Мальшэўскі, Віця Каранік, Роберт Задунайскі, Алена Мілаш, Кацярына Казінец, Андрэй Юхневіч.*
*Камп'ютэрная вёрстка - Мікі Нокс.*
Усе мы зараз адпраўляемся на канікулы і на адпачынак, чаго зычым і вам! Наступная сустрэча ў верасні. Наступная сустрэча ў верасні. **У верасні**.

**Паўтара месяца таму "РГ" правяла піўны конкурс. Нагадаем, што тады веды чытачоў правяраліся неіснуючымі гатункамі піва - "Смаргонскім", "Ашмянскім, "Вілейскім"... Тэма атрымала даволі нечаканы працяг.**

# Грузіце піва бочкамі

*ВАЛОЖЫН. Год таму льнокамбінат выпусціў першую партыю прадукцыі, якая не мела нічога агульнага са спецыфікай асноўнай вытворчасці: заводская півоварня пачала вырабляць слабаалкагольны напітак з ячменнага соладу. Справа не ішла, пакуль не правялі тэхнічнае пераабсталяванне піваварні і не завязалася дзелавое супрацоўніцтва з Лідскім піўзаводам.*

"Валожынскае" характарызуецца чыстым смакам і прыемным водарам дражджавога соладавага напітку з хмелевай горыччу. Існуючыя вытворчыя магутнасці льнокамбінатаўскай піваварні дазваляюць выпускаць у месяц да 6 тон прадукцыі. А калі "працэс пойдзе", то півавары пашыраць аб'ёмы да 30 тон.

Цяпер у Лідзе працуюць аўстрыйскія спецыялісты, якія займаюцца мадэрнізацыяй завода - аднаго з патрыярхаў рэспублікі. Ёсць дамоўленасць, што замежныя спецыялісты завітаюць і ў піваварню валожынскага льнокамбіната з мэтай дапамагчы наладзіць больш прадукцыйную работу.

Плануецца, што сабекошт валожынскага піва будзе ніжэйшым, чым лідскага.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

**"РГ" вылучае ідэю правядзення рэгіянальнага фестывалю піва. Калі ў каго ёсць свае меркаванні ці нават жаданне ўдзельнічаць - тэлефануйце ў рэдакцыю, заходзьце.**

# Зялёныя веды

*На працягу апошніх год склалася меркаванне, што, калі ты хочаш вучыцца ў ВНУ, абавязкова наймай рэпетытара, лепш нават не аднаго і, пажадана, мінскага. Ведаў, набытых у школе, часцей за ўсё не хапае для паступлення.*

Цяперашнія рэпетытары бяруць звычайна **$2-2,5** за гадзіну заняткаў, а запрашаюцца, у асноўным, спецыялісты па англійскай, беларускай і рускай мовах ды матэматыцы. Найбольш прэстыжным лічыцца запрашэнне выкладчыкаў з БДУ, эканамічнага ўніверсітэта. У Маладзечне з СШ №6 запрашаюць спецыялістаў англійскай мовы, з №7 - хіміі, з беларускай гімназіі - натуральна, беларусаведаў, а вось матэматыку найлепш выкладаюць мясцовыя настаўнікі-пенсіянеры.

Але патрэбныя рэпетытары найчасцей "троечнікам". Можа, прыйшоў час для карэннай школьнай рэформы? Тым больш, што, на думку саміх выпускнікоў, гэта намнога лепей, чым праводзіць эксперыменты з уступнымі экзаменамі ў ВНУ. Цяперашні падзел вышэйназваных на "прэстыжныя" і "не вельмі" не падаецца надта ўдалым (асабліва для медалістаў і харашыстаў).

Перавагу якім прафесіям аддаюць сённяшнія выпускнікі? У параўнанні з мінулым годам, густы іх амаль не змяніліся. Так што лепш на гэтае пытанне адкажуць лічбы леташніх конкурсаў на факультэты трох "прадажных" прафесій: эканомікі, юрыспрудэнцыі і журналістыкі.

*Яна КАВАЛЕВІЧ.*



# Выберы сабе прафесію

